

*Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!*

# Літаратура і Мастацтва

ШТОТЫДНЁВІК

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

**Пятніца, 18 мая 1990 г. № 20 (3534) ⊙ Выходзіць з 1932 г. ⊙ Цана 10 кап.**




# ПАРЛАМЕНТ ВУЧЫЦЦА ПРАЦАВАЦЬ

**15 мая ў Мінску адкрылася першая сесія Вярхоўнага Савета Беларускай ССР 12 склікання**





Журналісцкае месца на балконе залы пасяджэнняў Вярхоўнага Савета — як месца ў глядзельнай зале. Адсюль і сапраўды шмат відаць: як галасуе сакратар ЦК, што падабаецца ветэрану, чым засмучаны «нефармал»... І хоць першыя дні сесіі былі далёка не самым цікавым відовішчам, якое мне давялося бачыць у сваім жыцці, а ўсё адно, стоячы на балконе, нібы саўдзельнічаеш з тым, што адбываецца там, унізе. У нейкія моманты нават хочацца... дапамагчы дэпутатам. Калі не выступіць (да мікрафонаў далёка, ды і заняты яны ўвесь час), то хоць бы падаць прапанову «ў пісьмовым выглядзе» ў сакратарыят...

На старонках нашага друку паступова акрэсліваецца тон асвятлення сесіі. Я сказаў бы — паблажліва-ўшчувальны, часам бескампрамісны. Сёння, па сутнасці, нанова ствараецца жанр парламенцкай журналістыкі, і многае з убачанага дае газетчыкам неацэнную магчымасць вастрыць пёры. З іншага боку, што рабіць, калі першыя ж гадзіны працы сесіі выявілі глыбокую супярэчлівасць паміж Канстытуцыяй БССР і... здаровым сэнсам. І ўвасабляў гэтую супярэчлівасць ніхто іншы, як старшыня Цэнтральнай выбарчай камісіі М. Лагір.

Але справа, зразумела, не ў той ці іншай асобе. На другі дзень, калі памятаеце, нашы парламентарыі на чале з другім старшынёю ў бадзёрым тэмпе забалатавалі літаральна ўсе дапаўненні да парадку дня. Тое, што можна назваць «супрацьўленнем матэрыялу»,—вось тэма для ўважлівага аналізу. Маю на ўвазе не нейкую частку дэпутацкага корпуса, не схаваныя ад вачэй апаратныя «тонкасці» ў падрыхтоўцы сесіі, але — непамерна высокі кошт, які ўсе мы сёння мусім плаціць за адсутнасць уласнага вопыту паўнакроўнага палітычнага жыцця. Каб нам хоць крышачку «генаў» дэмакратыі, каб гэтулькі гадоў у нашы галовы не ўбівалася негатыўнае стаўленне да «буржуаз-

(Працяг на стар. 2).







# ПАРЛАМЕНТ ВУЧЫЦЦА ПРАЦАВАЦЬ

(Пачатак на стар. 1).

нага парламентарызму» — мы былі б іншыя. І мы, і нашы выбраннікі.

А так — маем, што маем. Раз'яднанасць, непаразуменасць, блытаніну ў працэдурных і тэхнічных пытаннях... Але я не стаў бы прад'яўляць «гамбургскі рахунак» нашым дэпутатам. Яны не з Альфа-Цэнтаўры да нас завіталі і занялі месцы ў Вярхоўным Савеце. У зале, прыстасаванай хутчэй для сядзення і націскання кнопак, а не для эфектыўнай парламенцкай дзейнасці. Пад вычварным барэльефам 30-х гадоў, на якім у натуральную велічыню ўвасоблены постаці ўзброеных людзей, што крадком кудысьці ідуць... Бывае, хочацца і паспачуваць дэпутатам. Нашай воляй яны трапілі на ярка асветленую палітычную сцэну— і аказалася, што па ёй нават хадзіць трэба вучыцца.

Між тым, першыя дні работы сесіі даюць цікавую інфармацыю для роздуму. І хоць часта гучаць заклікі да кансалідацыі і канструктыўнасці, досыць выразна акрэсліваецца расстаноўка сіл сярод дэпутацкага корпуса. Найперш гэта выяўляецца пад час галасавання, калі на электронным табло ўспыхваюць лічбы «за» і «супраць». Вось некалькі фактаў з майго блакнота, занатаваных пад час абмеркавання пытанняў, звязаных з фарміраваннем парадку дня сесіі. Напрыклад, за стварэнне надзвычайнай камісіі па расследаванні дзейнасці службовых асоб у сувязі з чарнобыльскай катастрофай (назва камісіі будзе яшчэ ўдакладняцца) выказалася 274 дэпутаты (галасаванне было пайменным). 114 галасоў было пададзена супраць абмеркавання на сесіі пытання аб Камітэце народнага кантролю (за — 145). За тое, каб разглядзець закон аб крымінальнай адказнасці за вытворчасць прадукцыі, забруджанай радыенуклідамі і нітратамі (прапанова дэпутата Л. Баршчэўскага), прагаласавала 126 чалавек, супраць— 155. Адным голасам было адхілена пытанне аб рэгістрацыі БНФ «Адраджэнне» (прапанова дэпутата С. Папкова атрымала 150 галасоў «за» і 151 — «супраць»). Цікава, што за пайменнае галасаванне па гэтым пытанні выказалася 116 дэпутатаў, супраць было 169. 223 галасамі адхілена ўключэнне ў парадак дня пытання аб нацыянальнай сімволіцы, 84 было пададзена за гэтую, яшчэ адну прапанову Л. Баршчэўскага. 67 — за, 228 — супраць — такі быў расклад, калі галасавалася прапанова разглядзець на сесіі пытанне аб прэзідэнцкай уладзе ў БССР; 35 — за, 265 — супраць, калі было прапанавана ўнесці змены ў выбарчае заканадаўства... А калі пераважнай большасцю галасоў у перш дзень было вырашана не трансліраваць пасяджэнні сесіі па тэлебачанні, у зале раздаліся апладысменты...

Зразумела, што галасавалася толькі ўключэнне таго ці іншага пытання; зразумела, што некаторыя з іх былі не лепшым чынам сфармуляваны. Але тое, як размяркоўваліся галасы, сведчыла і аб адносінах дэпутатаў да БНФ, і да сімволікі, і да КНК.

Упэўнены, што журналісты яшчэ не раз будуць пісаць пра паводзіны «большасці» і «меншасці» на гэтай сесіі. Заўважу, аднак, што ўсё адносна і, уласна кажучы, сам Вярхоўны Савет з'яўляецца меншасцю ў дачыненні да грамадства...

Што найбольш запомнілася? Асобы, якія ўжо вылучыліся, якія актыўна ўдзельнічаюць у рабоце сесіі, фарміруючы крытэрыі такога паняцця, як «парламенцкая праца». Я назваў бы дэпутатаў В. Ганчара, В. Голубева, С. Навумчыка, У. Станкевіча, У. Каваленка, В. Радамысльскага, Л. Баршчэўскага, Я. Цумарава, П. Садоўскага — на шчасце, іх пералік заняў бы значна больш месца, чым я сёння маю, занатоўваючы першыя свае ўражанні.

Усё яшчэ наперадзе. Калі вы заўважылі, дэпутаты выступаюць галоўным чынам каля расстаўленых у зале мікрафонаў. Галоўная трыбуна сесіі пакуль што пустуе...

Андрэй ГАНЧАРОЎ,
парламенцкі карэспандэнт «ЛіМа».








Фота А. КАЛЯДЫ і А. КЛЕШЧУКА.

# УРАДАВАЯ ПРАГРАМА: ПРЫЯРЫТЭТ КУЛЬТУРЫ

Другі раз за нядоўгі тэрмін свайго знаходжання на пасадзе прэм'ера сустрэўся В. Ф. Кебіч з дзеячамі беларускай культуры. Размова адбылася напярэдадні адкрыцця сесіі Вярхоўнага Савета БССР, дзе ўраду трэба будзе прадставіць на суд дэпутатаў праграму сваёй дзейнасці. Разам з пісьменнікамі, мастакамі, архітэктарамі, кампазітарамі, дызайнерамі, акцёрамі Старшыня Савета Міністраў вырашыў расставіць у ёй апошнія, магчыма, самыя важныя акцэнты.

А пачалася размова аб беларускай культуры з праблем эканамічных. У іх цеснай узаемасувязі і ўзаемазалежнасці нікога з прысутных пераконваць не трэба было. Як падкрэсліў В. Ф. Кебіч, многія сённяшнія беды ў духоўнай сферы былі запраграміраваны лічбай 0,75 працэнта — іменна такая частка бюджэту расходавалася доўгі час на культурныя запатрабаванні нацыі. Новы ўрад прапануе ўжо ў 1991 годзе павялічыць гэту лічбу як мінімум да трох працэнтаў.

У цэлым згадзіўшыся з эканамічнай праграмай урада, удзельнікі сустрэчы прапанавалі значна дапоўніць і расшырыць яе культурны раздзел. Занадта ўжо многа неадкладных праблем накапілася ў гэтай сферы. А тут паявілася такая, скажам прама, пакуль яшчэ нячастая магчымасць расказаць аб іх кіраўніку ўрада, напрамую папрасіць дапамогі. Патрэбны новыя будынкі тэатральна-мастацкаму інстытуту, кансерваторыі, мастацкаму музею. На ўрад галоўная надзея і ў рэалізацыі праграмы адраджэння беларускай мовы. Сярод неадкладных задач — павышэнне зарплаты работнікам культуры, дзяржаўная дапамога кінастудыі «Беларусьфільм», забеспячэнне паперай выдавецтваў...

Трэба адзначыць, што В. Ф. Кебіч заахвочваў зварот прысутных з матываванымі просьбамі, некаторыя праблемы вырашаліся тут жа. Старшыню Савета Міністраў не бянтэжыла, што цана многіх праектаў вымяраецца не адным мільёнам рублёў. Рэзка скараціўшы інвестыцыі прамысловасці, урад атрымаў магчымасць укладваць у культуру значныя сродкі.

БЕЛТА.

З ПОШТЫ «ВЫБАРЧАГА КЛУБА «ЛіМа»

# ХТО Ж КАГО ПЕРАМОГ?

Пра тое, што пад час выбарчай кампаніі дапускаліся парушэнні закона, а кандыдаты ў народныя дэпутаты дазвалялі сабе абразлівыя выпады супраць супернікаў, даводзілася чуць і чытаць. Напярэдадні выбараў 5 мая і самому трапіўся ў рукі дакумент, напісаны ў форме звароту да людзей, якія назаўтра павінны былі пайсці да выбарчых урнаў. Пад заслону, як кажуць, на дарожку, ім і даваўся апошні, «правільны», інструктаж, які ўжо ніхто не мог аспрэчыць і абвергнуць, бо ў дзень выбараў усякая агітацыя «за» і «супраць» забаронена...

«Дорогие товарищи! Минчане проявили политическую дальновидность и благоразумие, нанеся поражение на выборах 4 марта 1990 года представителям Белорусского народного фронта. Мы сделали свой выбор. Мы не поставили на карту собственную судьбу и будущее своих детей...»

Але чакайце—хіба мінчане сапраўды нанеслі паражэнне кандыдатам Беларускага народнага фронту, які, як вядома, выступаў на выбарах не сам па сабе, а ў саюзе з Таварыствам беларускай мовы, Беларускім экалагічным саюзам, Беларускім сялянскім саюзам, утвараючы сумесны Дэмакратычны блок? Так, многія яго відныя прадстаўнікі, як віцэ-прэзідэнт Акадэміі навук БССР Ліштван, доктар фізіка-матэматычных навук Хадыка, доктар гістарычных навук Ткачоў, старшыня Беларускага сялянскага саюза Ярмоленка, мастак Марачкін, філолаг Вячорка і некаторыя іншыя сапраўды не прайшлі ў народныя дэпутаты, але асабіста я ў гэтым не бачу ніякіх падстаў для радасці. Названыя людзі змагаліся за мандат у беларускім парламенце не з наспех сшытымі перадвыбарчымі праграмамі, разлічанымі на танны эфект і поспех у выбаршчыкаў, а зыходзячы з жыццёвых і грамадзянскіх пазіцый, глыбокага разумення праблем, што стаяць перад Беларуссю і патрабуюць неадкладнага вырашэння.

Але выбары ёсць выбары і сёння цяжка адназначна адказаць, чаму названыя і не названыя прадстаўнікі Дэмакратычнага блока, якія выйшлі на другі тур галасавання з вялікай перавагай галасоў, не здабылі перамогі. Сёй-той спрабаваў вытлумачыць гэта рашэннем літоўскага парламента аб выхадзе з СССР, чым, маўляў, былі запалоханы многія нашы выбаршчыкі. Але ж ні пра які выхад Беларусі з Саюза ні ў платформе Дэмакратычнага блока, ні ў індывідуальных праграмах яго прыхільнікаў і слова не было сказана. Разам з тым, хлусяць аўтары звароту, калі кажуць пра нейкае сакрушальнае паражэнне БНФ, бо, па-першае, і пры такой сітуацыі нямала прадстаўнікоў Дэмакратычнага блока прайшло ў народныя дэпутаты. А, па-другое, нельга не бачыць таго, што выбаршчыкі адмовілі ў сваім даверы многім прадстаўнікам партыйнага і адміністрацыйнага апарату.

Невядома, ці падсумоўваў хто, у якую капеечку нам ужо ўляцелі гэтыя рэкордныя па працягласці выбары? Акрамя ўсяго іншага, яны запатрабавалі вызвалення з асноўнай працы масы людзей. Але куды важней страты маральныя, якія адаб'юцца на дзейнасці нашага парламента і на яго аўтарытэце ў народзе!

Адным словам, не падзяляю радасці аўтараў звароту з нагоды вынікаў галасавання 4 сакавіка. Калі на тое пайшло, дык у той дзень мы перш за ўсё сустрэліся з недасканаласцю нашай выбарчай сістэмы, з недасведчанасцю многіх нашых выбаршчыкаў, якія не мелі цвёрдых перакананняў, выверанай пазіцыі і пад уплывам знешніх фактараў мянялі арыенціры. Сяго-таго было лёгка застрашыць, запалохаць, падмануць абяцанкамі. Застаецца спадзявацца, што самаўсведамленне прыйдзе да нас са шматпартыйнай сістэмай, якая разбурыць мана-



# КУЛЬТУРА Ў НЕБЯСПЕЦЫ

**Выступленне Барыса САЧАНКІ**

Мы, беларусы, шчаслівыя і разам з тым няшчасныя людзі. Шчаслівыя, бо ў нас, як і ў большасці народаў, ёсць свая зямля, свая мова, свая культура, сваё мінулае і сваё будучае. Няшчасныя, бо маючы, здаецца, усё, што трэба, мы, тым не менш, не мелі цягам стагоддзяў сваёй дзяржаўнасці. І не мелі не таму, што не дараслі да яе ці не хацелі, а таму, што як пісаў Якуб Колас:

**Тут сходзіліся плямёны**
**Спрэчкі сілаю канчаць,**
**Каб багата адароны**
**Мілы край наш зваяваць.**
**А нас цяжка ў сэрцы раніць,**
**Пад прыгон узяць навек,**
**Нашы скарбы апаганіць**
**Душу вынесці на здзек,**
**Каб у віры той ашукі**
**Знішчыць нашы ўсе сляды**
**Каб не ведалі і ўнукі,**
**Хто такія іх дзяды.**

*І кожны, хто прыходзіў з агнём і мячом на нашу зямлю, прыносіў сюды і свае парадкі, імкнуўся калі не фізічна знішчыць нас, дык духоўна.* Насуперак усім фактам даказвалася, што беларусы ніякі не народ, што ў нас няма сваёй гісторыі і культуры, а тая мова, на якой спрадвеку гаварылі і пісалі нашы продкі, — зусім не мова, а ўсяго толькі дыялект. Словам, рабілася ўсё, каб як найхутчэй забыліся на ўсё сваё, роднае, каб калі не зусім знішчыць, дык прыбіць, прыглушыць у кожным з нас нашу самасвядомасць, нашу нацыянальную годнасць. А, заадно, навязвалася ўсё чужое — мова, культура і нават звычаі. Так было пасля Люблінскай і асабліва Брэсцкай уніяў, калі пачалася жахлівая паланізацыя краю, калі вышэйшыя колы грамадства, тыя, хто павінен быў бараніць народ, здрадзілі яму, прыняўшы амаль пагалоўна чужую рэлігію, культуру і мову. Так было і пасля раздзелаў Рэчы Паспалітай, калі Беларусь была далучана да «турмы народаў» — Расіі. Мураўёў-вешальнік — яркі прадстаўнік царызму, і, на жаль, не адзіны, хто чыніў здзек над нашым народам, хто не толькі вынішчаў усё жывое і здаровае, але і распрацаваў цэлую сістэму ўціску.

Вялікая Кастрычніцкая рэвалюцыя разняволіла разам з іншымі народамі і наш народ. Па прыкладу іншых беларусы ўзяліся ладзіць сваё жыццё, сваю дзяржаву. Але гэта прадаўжалася нядоўга. Падзеленая на дзве часткі Рыжскім мірам, Беларусь зноў пачала аблівацца не толькі потам яе сумленных працаўнікоў, але і слязамі, крывёю. Картуз-Бярозу, расправу над усякім грамадскім рухам прынеслі польскія ўлады. Не намнога лепшым было жыццё беларусаў і па другі бок мяжы, дзе ўсталяваўся такі — сталінскі — «савецкі» лад, пра які трапна сказаў Янка Купала вуснамі аднаго са сваіх герояў: «Савецкі лад... гэта такая чырвоная паводка... такая, между протчым, паводка, аб якой не снілася ні Фараону, ні Саламону...». Ужо з канца трыццатых гадоў тут планамерна вынішчаліся ўсе самыя культурныя слаі грамадства, тапталася і ганьбавалася наша мова, наша мінулае. Дайшло да таго, што з сумлення народа, нацыянальнага генія Купалы захацелі зрабіць здраднікі і даносчыкі. Янка Купала не вытрымаў — зрабіў спробу самагубства. Як рэагавалі на гэта? Вось дакумент — пісьмо аднаго з тагачасных катаў беларускага народа Гея ў Маскву Пастышаву:

**«Считаю необходимым сообщить Вам, что вчера, 20 ноября утром покушался на самоубийство Янка Купала — народный поэт Белоруссии...**

**Янка Купала входил в руководящий центр «Саюза Вызвалення Беларусі», (...) являлся идейным центром нац.-демовской контрреволюции, что нашло отражение и в его творчестве.**

**Приглашенный для переговоров в ГПУ, Янка Купала упорно отрицал свою принадлежность к какой бы то ни было контрреволюционной организации и не обнаружил ни малейшего желания пойти навстречу нам в смысле хотя бы осуждения контрреволюционной деятельности своих друзей — участников и руководителей СВБ...**

**Всё это происшествие рассматривается нами как протест против нашей политики борьбы с национал-демократизмом...**

**(Самый факт покушения на самоубийство мы, конечно, огласке не придаем).**

**В связи с этим прошу ускорить присылку окончательной редакции информационного сообщения по делу СВБ. Работу среди интеллигенции надо разворачивать во всю и, конечно, молчание нашей прессы связывает нам руки».**

«Молчание прессы» было парушана, і «работа среди интеллигенции», як таго і дамагаўся Гей, пачала разгортвацца «во всю» — рукі новых катаў беларускага народа больш не былі нічым звязаны. Толькі пісьменнікаў было рэпрэсіравана больш за 120 чалавек! Былі знішчаны ці накіраваны ў сталінскі ГУЛАГ усе больш-менш вядомыя вучоныя, мастакі, кампазітары, артысты, журналісты, краязнаўцы, тысячы настаўнікаў і студэнтаў, усе тыя, хто не забываў сваю мову і культуру, аддана служыў народу. У тыя гады было знішчана фактычна ўсё лепшае сялянства, якое, гаворачы словамі Энгельса, з'яўляецца «галоўным носьбітам нацыі». Потым, спакваля, але ўсё настойлівей узяліся нішчыць апошняе, што яшчэ заставалася — прыроду, вынішчэнне якой прадаўжаецца і сёння.

Вялікая Айчынная вайна, а ўслед за ёю і аднаўленчы перыяд, масавыя высылкі і вярбоўкі прывялі да незвычайных перамяшчэнняў людзей і нават цэлых народаў, што дало магчымасць Сталіну, Хрушчову, Брэжневу і іх памагатым прываблівымі, высакароднымі лозунгамі інтэрнацыяналізму правесці дэнацыяналізацыю савецкага грамадства, прывіць многім нацыянальны нігілізм. Найбольш у гэтых адносінах пацярпела наша рэспубліка, якая зрабілася своеасаблівым палігонам для самых розных, часам вельмі сумніцельных, эксперыментаў. Народ, хоць і не знішчаны фізічна, але пазбаўлены гістарычнай памяці, мовы і культуры — ужо не народ, а насельніцтва, з якім можна абыходзіцца як заўгодна. І не трэба думаць, што з прыходам перабудовы гэтыя сумніцельныя эксперыменты спынены. Яскравы прыклад таму — чарнобыльская аварыя.

Ну, а ў якім стане апынулася наша мова, гаварыць у гэтай аўдыторыі, думаю, не варта. За рэдкім выключэннем ёю даўно ўжо «не оскверняют уста» кіраўнікі рэспублікі, абласцей і нават раёнаў. А культура? Калі, скажам, як ужо гаварыў В. Зуёнак у сваім дакладзе, ва ўсёй нашай краіне на яе развіццё выдзяляецца паўтара працэнта гадавога бюджэту, што, бясспрэчна, мізэрна мала, дык у Беларусі, дзе культура знаходзілася, як кажуць медыкі, у лятальным стане, і гэтыя куцыя паўтара працэнта скарочаны ўдвая. Даўно ўжо не толькі не будуюцца новыя тэатры, музеі, бібліятэкі, не ставяцца помнікі, але і тыя, што збудаваны нашымі продкамі і не знішчаны заваёўнікамі, паспяхова разбураюцца. А ў якім становішчы знаходзіцца *наша галоўная захавальніца кніжнай культуры — Ленінская бібліятэка!..* А ўрадавая? Ёй жа не знайшлося месца на ўсіх паверхах велізарнейшага Дома ўрада, выселілі ў падвал!.. Ці не лепш было б паслухацца парады вядомага героя з камедыі А. Грыбаедава:

**Уж коли зло пресечь:**
**Забрать все книги бы да сжечь.**

Колькі было пастаноў аб будаўніцтве новага купалаўскага тэатра! І што?.. А ў якіх умовах працуе філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта, які дае асноўныя кадры ў нашу нацыянальную літаратуру, навуку, культуру? А ў якіх умовах знаходзяцца нашы рэдакцыі! Ды і тое ж выдавецтва «Мастацкая літаратура», якое штогод аддае Міністэрству фінансаў 12 мільёнаў рублёў прыбытку?

Пра музеі і гаварыць не хочацца. Тыя некалькі вартых жалю, што ў нас ёсць, перавялі на гаспадарчы разлік, што раўназначна іх гібелі. А ўмовы, у якіх знаходзяцца самі музеі, ды і тыя, хто там працуе? Адзіны мастацкі музей — а іх па крайняй меры павінны быць у сталіцы тры — *Музей нацыянальнага мастацтва, Музей рускага мастацтва, Музей замежнага мастацтва* — у такіх цесных умовах, што большасць шэдэўраў вымушаны тыліцца ў запасніках, фактычна хавацца ад народа. І ніхто за ўсё гэта не адказвае.

Культура ў Беларусі ў небяспецы. Прыняты нядаўна з такой цяжкасцю Закон аб мовах забыты, сёй-той, як мне здаецца, не прыступае і не думае прыступаць да яго выканання. Не зроблены адпаведныя захады і да больш шырокага выдання і перавыдання кніг на беларускай мове, азнаямлення са спадчынай. Ды і па прапагандзе лепшых дасягненняў беларускага мастацтва мала што робіцца. І ў далейшым ці будзе хоць што рабіцца для паляпшэння стану культуры, калі нашы дзяржаўныя мужы *падумалі, каб у Вярхоўным* Савеце рэспублікі былі прадстаўлены інваліды і пенсіянеры, а не падумалі, каб там былі прадстаўлены нашы творчыя саюзы, работнікі культуры. Раней хоць паводле пасад там былі прадстаўнікі гэтых арганізацый. А цяпер? Ні аднаго мастака! Ні аднаго кампазітара! Ні аднаго артыста! Ні аднаго работніка кіно! Ні аднаго бібліятэкара! Ні аднаго работніка музея! Дзе, у якой краіне ды і рэспубліцы такое магчыма? А ў нас, аказваецца, усё можна... Тры пісьменнікі-дэпутаты не ўратуюць ні нашу мову, ні нашу культуру, асабліва калі ўлічыць, што ў дэпутацкім корпусе ёсць такія яе ненавіснікі, як старшыня *Мазырскага* гарвыканкома ды і некаторыя іншыя, да яго падобныя.

Мне здаецца, Саюз пісьменнікаў павінен стаць ініцыятарам правядзення Усебеларускага форуму работнікаў культуры, на якім варта пагаварыць пра многае, а галоўнае — распрацаваць праграму прапаганды беларускай культуры, аховы яе ад тых, хто яе ненавідзіць і свядома ці несвядома шкодзіць яе развіццю. Форум гэты трэба правесці пад лозунгам: «Работнікі культуры, яднайцеся!» Толькі з'яднаўшыся, мы можам супрацьстаяць таму націску на культуру, які ішоў і ідзе з боку бяздушнага чыноўна-бюракратычнага апарату — ён у нашай рэспубліцы і не збіраецца здаваць свае пазіцыі. заваяваныя, вядома ж, зусім не лепшымі справамі ў часы сталіншчыны і брэжнеўшчыны. Калі што-небудзь добрае ў нас і робіцца, дык не дзякуючы клопатам «прагрэсіўна-кансерватыўнага» кіраўніцтва, а насуперак яму.

Літаральна некалькі слоў пра наш Саюз пісьменнікаў. Ён за апошнія гады вырас, але аўтарытэт яго ў вачах грамадскасці не падняўся. І тут віна не толькі ўсіх нас, пісьменнікаў, нашага праўлення і сакратарыята, а віна і тых, хто не чытае нашых твораў, ігнаруе нашу арганізацыю, не падтрымлівае добрых пачынанняў і парыванняў, а, наадварот, робіць усё магчымае, каб з літаратуры — гонару, славы і сумлення народа — зрабіць яшчэ адно непатрэбства.

І як бы мы тут, на нашым з'ездзе, ні крытыкавалі адзін аднаго, каго б на чале творчага саюза ні ставілі, як бы ні мянялі свой статут, гэта нічога не зменіць, пакуль не будуць зменены ў рэспубліцы адносіны да нашай мовы, нашай культуры, а, значыцца, і літаратуры.



# ЗАКЛІКАЮ СТАЦЬ БЕЛАРУСАМІ

**Выступленне Вольгі ІПАТАВАЙ**

Пераломны, рашучы, але і дзіўны час прыпадае на нашу долю: тысячныя мітынгі называюць кіраўніцтва рэспублікі злачынцамі і патрабуюць яго, сённяшняе і ўчарашняе, прыцягнуць да судовай адказнасці. З другога ж боку, лепшых і сумленных прадстаўнікоў інтэлігенцыі шальмуюць, называюць утрыманцамі і экстрэмістамі. Страты *з аднаго* і другога боку відавочныя.

У перадвыбарчай кампаніі не заікайцеся, *што пісьменнік — пойдуць* размовы аб казачных ганарарах, і, напрыклад, запэўнівай не запэўнівай, што жывеш не ў харомах, — не даюць веры! Улада — ужо ў нейкай разгубленасці — штампуе ўказы і законы, спрабуючы, як плацінамі, агарадзіцца ад народнага крыгаходу.

Інтэлектуальны і мастацкі патэнцыял нацыі з натугаю і крывёй выцягвае — то імя, то дазвол насіць Пагоню на пінжаку ці стаяць са свечкай у знак чарнобыльскай жалобы. У той час як незалежнай прэсы — амаль няма, падручнікі выдаюцца па-ранейшаму са сталінска-брэжнеўскай пазіцыі, а народ так і не ведае гістарычнай праўды аб самім сабе.

Сам Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР даведваецца аб спрадвечных беларуска-віленскіх землях, мабыць, у той момант, калі зноў узнікла патрэба ў крыві беларусаў. Тав. Мікуліч тэрмінова прымае няшчасных бежанцаў з Літвы, якія не жадаюць вучыць літоўскую мову. Калі пры такім націску не зажадалі, яны і тут, на Беларусі, не захочуць вучыць чужую — беларускую. Затое трэці тыдзень тав. Мікуліч пазбягае сустрэчы з членамі рады краязнаўчага таварыства, якое Вярхоўны Савет адмовіўся рэгістраваць. Вось «Отечество», якое амаль адкрыта заклікае ратаваць Расію—тую, якая ляжыць да мяжы былой Заходняй Беларусі, там ужо «Усходняя Польшча»—калі ласка!

Нездарма на Гродзеншчыне ў райкомах шчасліва рапартуюць аб імклівым росце таварыстваў польскай культуры. ТБМ там і часткі такой бацькоўскай увагі не мае. Любым гатовы стаць наш ідэолаг — польскім, расейскім, паўднёваафрыканскім — абы не беларускім!

Сумна ад гэтага. Сумна ад трывалага позірку нашых улад выключна ў бок так званых інтэрнацыянальных інтарэсаў. Можа, час думаць і пра свой народ? Пра збаўленне ад крывасмокаў-ведамстваў, пра паветра, грашовыя сродкі беларусаў? Пакуль гэтым займаецца толькі Народны фронт.

На Украіне пісьменнікі ўзялі Рух пад крыло, узнялі яго да сапраўды народнага. Вы скажаце, што там не так вытаптана народнае поле і не так аплявана інтэлігенцыя? Гэта праўда. Там, напрыклад, даўно дазналіся б, чаму зробленыя на заводзе Леніна дазіметры дазволена прадаваць па-за межамі рэспублікі. Я дарма спрабую дайсці да ісціны — пісьменнікаў цяпер проста не пускаюць да рабочых.

Я заклікаю нашых ідэолагаў і дзяржаўных стратэгаў стаць беларусамі. Я заклікаю нашых беларускіх пісьменнікаў стаць дзяржаўнымі стратэгамі і павялічыць свае намаганні — інакш у нашага зняверанага ва ўсім і ва ўсіх народа можа скончыцца цярпенне...



# ПРАЎДА ЗАСТАЕЦЦА ДЭФІЦЫТАМ

**Выступленне Сяргея ГРАХОЎСКАГА**

Літаратура ў нашы дні перастае быць павелічальным люстэркам уяўных поспехаў і перамог, а становіцца барометрам, дазіметрам, компасам, набатам трывогі.

Мы так доўга маўчалі, так доўга хлусілі сабе і людзям у эйфарыі выдуманага шчасця, так доўга былі ў гіпнатычным сне, што цвярозыя думкі, якія цяпер здаюцца банальнымі, баяліся выказаць самым блізкім. І вось прычакалі шчаслівай пары, калі можна гаварыць праўду. Праўда і сумленне былі найбольшым дэфіцытам і ў пэўнай ступені *яшчэ застаюцца дэфіцытам.*

Прыйшоў час кожнаму адумацца, пакаяцца, паспавядацца, як перад сконам, не азіраючыся ні на прэзідыум, ні на «нінаандрэеўскіх» прынцыпалаў, ні на добраахвотных «кваліфікатараў», нанятых на высокія аклады кіраваць літаратураю. Можа, вы скажаце, каму з нас *патрэбны няньки і апекуны?*

Шчыра прызнаемся: усе мы былі канфармістамі—званарамі і алілуйшчыкамі масавага ачмурэння, старанна ружовымі фарбамі малявалі ўкормленых калгасных, раённых, абласных і вышэйшых чыноўнікаў, а заплюшчвалі вочы на махляроў, хабарнікаў, прыстасаванцаў і злачынцаў.

Праўда, не ўсе спакусіліся на танную славу і тлустую скварку. Стоікам у сваіх перакананнях, асобаю з непадкупным сумленнем з першых крокаў у літаратуры быў і застаецца Васіль Быкаў, з паляшуцкай упартасцю лёс людзей на балоце адстойваў Іван Мележ, праўду сказаў у «Дабрасельцах» Аляксей Кулакоўскі. У гісторыю сышоў Караткевіч, сумленна гаварылі тое, што думаюць, Панчанка, Адамовіч, Гілевіч, Дамашэвіч, Карпюк, Казловіч, Алексіевіч, Брыль, Якавенка, Матукоўскі.

Асабліва ўвішныя паслугачы апарату аператыўна адгукаліся раманамі, аповесцямі, паэмамі, п'есамі на кожную «гістарычную» пастанову, а ўсе яны былі толькі гістарычныя. І прамашкі не было: вярхі, задаволеныя якасцю лакіроўкі, не скупіліся на аддзяку. Па чатырыста адданых песняроў узнагароджваліся адным указам!

У царскай Расіі былі ўзнагароджаны толькі прыдворны гісторыяграф Карамзін, аланецкі губернатар Дзяржавін, выхавацель цэсарэвіча Жукоўскі і вернападданы паэт Кукальнік. А колькі ў нас ардэнаносцаў і герояў аўтаручкі? Пісьменнікі заўсёды былі заступнікамі народа, а не прыслужнікамі начальства. Мудра сказаў Аксакаў: «Награждениям не подвергался». А колькі мы патрацілі намаганняў, каб «подвергнуться» любой узнагародзе!

Смешна і прыкра слухаць цяпер, калі, прадстаўляючы аўдыторыі пісьменніка, падпіраюць яго падпоркамі і мыліцамі: «лаўрэат, заслужаны, кандыдат, дэпутат, доктар, акадэмік». Нібыта без гэтых падпорак не паверацъ, што выступае сапраўды пісьменнік.

Многія шчыра верылі, што «наша пакаленне будзе жыць пры камунізме». І я ў 50-я гады па наіўнай даверлівасці сцвярджаў, што Наваполацкі гігант прынясе людзям шчасце, а ён стаў ракавым і ракавым могільнікам для дзяцей і дарослых—праз некампентэнтнасць і абыякавасць да лёсу людзей у імя плана. Амаль нікога з першабудаўнікоў ужо не засталося.

Нашы публіцысты на ўсю краіну загаварылі пра Салігорск, Наваполацк, Чарнобыль, пра гібель Нарачы, Дняпра і Прыпяці. А хто прыслухаўся да голасу Казько, Казловіча, Петрашкевіча, Якавенкі, Віктара Жука, Дуброўскага? Наўкол—зона маўчання. У забруджаных радыяцыяй вёсках будуюць дамы і клубы, узвялі паселішчы за 30-кіламетроваю зонаю, а цяпер высяляюць і адтуль. Закапаны ў зямлю народныя мільёны і матэрыялы, людзі зноў беспрытульныя, а хто пакараны за злачынную некампетэнтнасць і абыякавасць? Ніхто.

Чарнобыль, аварыі апошняга часу высвятлялі некампетэнтнасць і разгільдзяйства, а з другога боку—міласэрнасць і спагаду нашых людзей. Недарэчна толькі, калі абвяшчаецца «Тыдзень міласэрнасці». Міласэрнасць павінна быць адвечнаю, асноваю нашага сумлення і маралі. Хацелася б ведаць, колькі ахвяраваў дзецям Чарнобыля аўтар выбуховага рэактара акадэмік Аляксандраў, наш былы міністр аховы здароўя і тыя колішнія кіраўнікі рэспублікі, што ў першыя ж дні трагедыі затыкалі рот Адамовічу і нашым фізікам, каб толькі не «панікавалі».

Здзіўляе бяздумная і безадказная гатоўнасць некаторых наменклатурных дзеячаў *аднолькава некампетэнтна* кіраваць эканомікай, палітыкай, прамысловасцю, навукаю, сельскай гаспадаркаю, літаратураю і мастацтвам, урэшце ўсё завальваць і зноў выплываць у вышэйшых сферах «у сувязі з пераходам на іншую работу» або на высокую пенсію.

У нас ёсць акадэмічны Інстытут літаратуры, а сапраўднай гісторыі літаратуры няма. Многія члены саюза з вучонымі ступенямі за дзесяцігоддзі не надрукавалі ні радка. Найбольш плённа выступаюць у жанры крытыкі жанчыны: Грамадчанка, Чабан, Савік, Лысенка. З соцень новых кніг рэцэнзуецца 10—15, у многім дзякуючы Алесю Марціновічу.

У залаты фонд літаратуры пара вярнуць глыбока вывучаную творчасць Гартнага, Гарэцкага, Нёманскага, Галавача, Чарота, Мурашкі, Зарэцкага, Дубоўкі, Пушчы, Каваля, Калюгі, Хадыкі, Мрыя, Мікуліча, Шашалевіча — усіх вялікамучанікаў Курапатаў і ГУЛАГа, а ў першую чаргу нашых пачынальнікаў і папярэднікаў, закрэсленых бэндаўска-гарбуноўскім дзёгцем. Неабходна аднавіць памяць усіх ахвяраў сталінізму, а мы ніяк не збярэмся выдаць іх творы і ўшанаваць хоць бы мемарыяльнаю дошкаю ў нашым доме. Незразумела, чаму ўрад да гэтага часу не прызнае права на існаванне «Мартыралога Беларусі». У свеце ёсць таварыствы вязняў фашысцкіх *лагераў*, а мы саромеемся вяртаць народу памяць сваіх слаўных папярэднікаў, нібыта мелі дачыненне да тых злачынстваў.

У многіх звеннях апарату яшчэ засталіся людзі, сфарміраваныя ў даперабудоўчы час, яны, бедныя, не могуць, ды і не вельмі рвуцца перакоўвацца. Калі ім не ўдаецца аспрэчыць і пераканаць апанентаў у адкрытай дыскусіі і яны спрабуюць *апраўдацца па радыё* і тэлебачанні, дык буйны план высвечвае часта невысокі інтэлект і недасведчанасць.

У рэспубліцы прыняты закон аб мове, але дзейнасць яго пакуль што незаўважная. Гэта трэба дадумацца—5 і 10 гадоў авалодваць роднаю моваю, ад якой выракліся, пераехаўшы ў горад і захварэўшы на «інтэлігентнасць»! Нармальныя людзі куды хутчэй вывучаюць кітайскую, японскую і хіндзі.

Лёс роднай мовы, культуры і літаратуры—наш галоўны клопат. Не адстоім цяпер мы, станем сведкамі заняпаду і знікнення. Наш дом і наш Саюз — *бадай, адзіны астравок, дзе ратуецца* наша старажытнае і ўзбагацелае слова. Самае парадаксальнае, што бараніць яго даводзіцца беларусам... ад беларусаў, каб зберагчы душу народа, яго гісторыю і будучае.

Ці патрэбен нам Саюз пісьменнікаў? Ён створаны, па трапным вызначэнні Адамовіча, па ўзору калгаса, з міністэрствам у Маскве, з праўленнямі, *брыгадамі, брыгадзірамі. Яму няма часу* займацца творчымі клопатамі, яго ператварылі ў дэпартамент мітусні. Нашы маскоўскія калегі расколваюцца і адлучаюцца, заклапочаныя барацьбой з выдуманай русафобіяй, а што дзесяцігоддзямі ішла русіфікацыя Беларусі і іншых рэспублік—іх не хвалявала і не хвалюе.

І апошняе. Міністэрства фінансаў з блаславлення «большасці» дэпутатаў—відаць, «вялікіх аматараў» літаратуры, вырашылі да мільёнаў беднякоў далучыць большую частку пісьменнікаў. Яшчэ жывыя душыцелі Маякоўскага—фінінспектары, відаць, падлічылі мільёны ў літаратурных генералаў, што выдаваліся ва ўсіх рэспубліках і абласцях, і вырашылі аднатыражнікаў, чорнарабочых пяра пасадзіць на штрафны кацёл, *нібыта гэтым можна залатаць* усесаюзную прарэху—не бачачы мільярдаў цянявой эканомікі, без абмеркавання павышаючы аклады шматмільённай чынакратыі. Вось доказ, як нельга прымаць адзін закон на ўсю вялізную краіну. Патрэбна, каб урад Беларусі ўнёс тут свае карэктывы, калі ён сапраўды суверэнны.

А мы будзем рабіць усё, каб праўдаю і верaю служыць нашаму народу, яго добрай і светлай душы, каб зберагчы ўсе духоўныя і матэрыяльныя здабыткі папярэднікаў і сучаснікаў, каб хоць нешта светлае пакінуць нашым нашчадкам.



# ШТО СЕЯЛІ, ТОЕ І ЖНЁМ

**Выступленне Генадзя БУРАЎКІНА**

Прашу мне вялікадушна дараваць, але я не буду гаварыць аб нашых спецыфічна прафесійных справах, аб нашых «чыста» літаратурных узаемадачыненнях. І не таму, што лічу справаздачны перыяд бясплённым для беларускай прозы і паэзіі, драматургіі і крытыкі. Не, я з сапраўдным хваляваннем і пачуццём гонару за родную літаратуру чытаў, напрыклад, у гэтыя гады новыя творы Пімена Панчанкі і Васіля Быкава, Рыгора Барадуліна і Віктара Казько, Уладзіміра Някляева і Аляксея Дударава... З вялікай усцешнасцю і надзеяй сустрэў я прыход у наш саюз Анатоля Сыса, Сяргея Сокалава-Воюша і іхніх маладых таварышаў. І ўсё ж у наш час глыбінных грамадскіх зрухаў і надзвычайнай палітызацыі жыцця я хачу хоць коратка падзяліцца з вамі горкім роздумам аб стане культуры ў рэспубліцы, аб тым самазадаволеным раўнадушшы да духоўнага як «зверху», так і «знізу», якое вымушае крыкам крычаць з усіх магчымых трыбун *і перш за ўсё з гэтай.*

Вы ўсе добра ведаеце вынікі выбараў народных дэпутатаў нашай роднай рэспублікі. Дарэчы, гэтыя вынікі на адной з апошніх сесій Вярхоўнага Савета БССР мінулага склікання бліскуча прадказаў Ніл Гілевіч. Выбаршчыкі даволі дружна адмовілі пісьменнікам у праве на давер і, відаць, упершыню ў пасляваеннай гісторыі да крыўднага бедна будуць прадстаўлены ў беларускім парламенце «інжынеры чалавечых душ». Ну што ж, магчыма, той-сёй з пыхлівых крытыкаў так званай мітынговай дэмакратыі радасна ўсклікне: так ім і трэба, хай не лезуць у вялікую палітыку, хай *не баламуцяць народ сваімі экстрэмісц*кімі заклікамі да свабоды думкі і абуджэння нацыянальнай свядомасці, працоўнаму люду яны не патрэбны... Можа, і не патрэбны. Можа, і сапраўды выпеставаны ў брэжнеўскія глухія дзесяцігоддзі малаадукаваны дэмагог з каўбасой наперавес заняў ужо ўсе магчымыя рубяжы, і святло розуму і таленту не магло прабіцца ў яго даўно заплюшчаныя вочы. Можа, і папраўдзе, славутая эканамічная стабільнасць вымагае ў нас бяздумнай паслухмянасці і мінімальных культурных запатрабаванняў. Ды ўрэшце, чаго хацець, калі ў рэспубліканскім бюджэце не адзін год традыцыйна на культуру выдаткоўвалася меней аднаго працэнта і ўсе кіруючыя пасады ў нас займаюць «чыстыя» гаспадарнікі! Што сеялі, тое і жнём... І здзіўляцца асабліва няма чаго.

Тое ж, што сярод народных дэпутатаў на сённяшні дзень не аказалася ніводнага мастака, кінематографіста, музыканта, артыста, не толькі не суцяшае, а робіць сітуацыю проста жахлівай.

Як вядома, кожны народ вуснамі творчай інтэлігенцыі — іх словам, песняй, фарбай — пакідае аб сабе памяць у вяках, перадае веды аб сабе іншым насельнікам зямлі. Даруйце за рэзкасць— не каўбасой, не калійнымі ўгнаеннямі і нават не трактарамі, а творчасцю пісьменнікаў, мастакоў, музыкантаў. Дык што ж — сучасны беларус не хоча пакінуць аб сабе памяць сваім нашчадкам і іншым народам? Ці — няма каму гэта зрабіць? Ці — не засталося ў душы нічога свайго, адметнага?.. Я не веру, што так думае наш працавіты, цягавіты і негаваркі, але шчыры і добры народ. Калі хто так і думае, дык гэта бессмяротны, нахабны чыноўніцкі апарат, які і сёння бачыць у людзях вінцікаў усемагутнай дзяржаўнай машыны, пешак у сваіх кабінетных гульнях. І наіўна думаць, што апарат гэты зусім не пакінуў следу сваёй бесперапыннай дзейнасці не толькі ў эканоміцы, палітыцы, а і ў чалавечых душах. Хіба гэта не ён у газетным допісе наіўнага рабочага папракаў нас кавалкам хлеба? *Хіба гэта не ён блаславіў* дысцыплінаваных ветэранаў і маладых актывістаў на тое, каб яны дружна даказвалі, што дзяржаўнасць беларускай мовы нікому не патрэбна, а «Мартыралог Беларусі» — ледзь не варожая арганізацыя? І хіба не ён станавіўся непераадольнай сцяною на шляхах да чарнобыльскай праўды?..

Ён — гэта славуты і дасюль непераможаны бюракратычны апарат, гібкі хрыбетнік каманднa-адміністрацыйнай сістэмы, ніколі не любіў культуру, бо яе развіццё не можа быць без дэмакратыі, свабоды выказвання і спаборніцтва ідэй. І трэба аддаць яму належнае — у нашай рэспубліцы, ва ўсякім разе, ён дасягнуў значных поспехаў. Яго намаганні па адцiранні інтэлігенцыі ў цёмныя закуткі нашага агульнага дома дарма не прапалі. Выбары гэта прадэманстравалі адназначна. Як пісаў паэт, «что ж, веселитесь...». Толькі вось з маёй душы ніяк не выходзіць недаўменне: чаму ж гэта ні на мітынгах, ні на сходах, ні на пленумах, ні на парадах, дзе так гучна (і правільна) гавораць пра пустыя паліцы магазінаў, ніхто нават шэптам не заікнуўся пра пустыя душы многіх людзей? Няўжо іх лягчэй і прасцей напоўніць, чым вясковыя крамы і сталічныя універмагі? І няўжо атрутная жыжка вялізных свінагадоўчых комплексаў назаўсёды замуціла крышталь нашых жвірыстых крынічак?

У сувязі з нагаданым спецыяльна хачу спыніцца на лёсе слаўнага нашага Полацка. Не таму, што ён *скора збярэ* гасцей на 500-гадовы юбілей свайго мудрага сына — Францішка Скарыны, а таму, што жыць многім яго гістарычным рэліквіям засталося самае вялікае сем—дзесяць год. Я бачыў гэта нядаўна, як кажуць, на свае вочы. Асыпаюцца муры, парахнеюць сцены, раўнуюцца вуліцы. І знікае, як прывід, гісторыя, такая па-мужыцку трывалая і ўсё ж такая кволая.

У друзе маўкліва канае памяць XII, XIV, XVIII стагоддзяў. Тая, якой няма ні ў якім іншым месцы не толькі Беларусі, а і ва ўсяго славянства. Гэта гучыць дзіка, але ў нас не знайшлося золата, каб пакрыць ім купалы чароўнай Сафійкі, той, чые родныя сёстры ззяюць на сонцы ў Кіеве і Ноўгарадзе. На дзесяткі геройскіх зорак брэжнеўскага Палітбюро знайшлося, а на Сафійку — не... Давайце ратаваць наш стары Полацк, давайце дабівацца, каб стаў ён цэнтрам міжнароднага турызму, каб і Ефрасіння Полацкая, і Францішак Скарына, і Сімяон Полацкі сталі вядомымі і дома і ў далёкіх краях. Колькі ж можна трываць і маўчаць!

На жаль, маўчаць мы навучыліся куды як здорава. І тады, калі гаворка ідзе пра сівую даўніну. І калі нехта ўздымае голас, дык часцей за ўсё застаецца адзін, а вось калі маўчым, дык ужо калектыўна. А час ад часу трэба ж і калектыўную думку выказаць, калі мы сапраўды саюз талентаў, таварыства аднадумцаў. Вось ужо каторы год бесцырымонна абражае, зневажае нашых таварышаў, знакамітых празаікаў, паэтаў, публіцыстаў добра вядомы ўсім «Политический собеседник» — і мы даволі спакойна назіраем, як адстрэльваюцца ад яго кананад Васіль Быкаў, Алесь Адамовіч, наш пасмялелы «ЛіМ». Я не буду цытаваць бумажкоўскія ці семашкоўскія «перлы», не буду дэманстраваць прыёмы так званай «палемікі», якія дазваляе сабе грамадска-палітычны часопіс, я толькі нагадаю прозвішчы тых, хто падвергнуты грубай безапеляцыйнай «праборцы» — акрамя традыцыйна ненавісных «Политическому собеседнику» Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, гэта — Рыгор Барадулін, Віктар Казько, Святлана Алексіевіч, Барыс Сачанка, Сяргей Законнікаў, Валянцін Блакіт, Анатоль Сульянаў, Іван Ласкоў, Аляксей Карпюк, Анатоль Сідарэвіч, Васіль Якавенка... Магчыма, я назваў далёка не ўсіх, але, думаю, дастаткова, каб зразумець, якія розныя пісьменнікі не падабаюцца «Политическому собеседнику» і ўсё — па так званых ідэалагічных матывах. Твораў аўтары часопіса практычна і не ўпамінаюць (можа, таму, што проста не чыталі іх). Ды і цяжка дагадзіць літаратурным густам рэдакцыі, якая ў чацвёртым нумары за гэты год выдае за паэзію такія практыкаванні:

Не за то наши предки костьми полегли,
Чтоб Россию теперь разбазарили мы.
Не затем мы Державу крепили свою,
Чтобы нынче отдать неизвестно кому.

Па-мойму, гэтыя опусы аднолькава яркія як у адносінах да законаў вершаскладання, так і з пазіцый палітычнага гледжання на нашу ўчарашнюю і сённяшнюю гісторыю.

Тых, хто яшчэ не трапіў на бязлітасны суд часопіса, магу заспакоіць — у вас яшчэ ўсё наперадзе, дарагія сябры, бо ходзяць упартыя чуткі, што, нягледзячы на жорсткі недахоп паперы (праблемы ажно з друкаваннем падручнікаў), у бліжэйшы час «Политический собеседник» павялічыць свой аб'ём яшчэ на 2 друкаваныя аркушы. Так што месца хопіць на ўсіх...

А калі казаць сур'ёзна, дык я лічу, што мы абавязаны засведчыць свае адносіны да зместу шырока вядомага сваёй кансерватыўнай пазіцыяй часопіса — дарэчы, любімага друкаванага органа таго апарату, пра які я тут нагадваў. Можа, гэта, як лічаць скептыкі, не зменіць нічога. Але давайце не дапусцім, каб праз дзесяткі год, калі час дасць аб'ектыўную і суровую ацэнку сённяшнім справам і словам, дзеці нашы і маладыя нашы паслядоўнікі папракнулі нас у адсутнасці прынцыповасці і мужнасці. Хай яны бачаць, што мы калектыўна ведалі цану «палітсубяседнікаўскім» практыкаванням і не мірыліся ні з тым, калі ноччу ўламваліся ў зачыненыя дзверы нашага агульнага дома, ні з тым, калі лезлі з невуцкімі павучэннямі ў нашы спакутаваныя душы. Таму я прапаную прыняць спецыяльную рэзалюцыю з'езда з вызначэннем нашых адносін да публікацый часопіса «Политический собеседник». Тэкст яе, на мой погляд, мог бы быць прыкладна такі: «X з'езд пісьменнікаў Беларусі рашуча асуджае публікацыі часопіса «Политический собеседник», якія ў зневажальнай форме бяздоказна і безадказна выстаўляюць палітычныя абвінавачванні многім вядомым пісьменнікам, што можа прывесці да непатрэбнай канфрантацыі і процістаўлення творчай інтэлігенцыі рабочаму класу і сялянству рэспублікі.

З'езд просіць Цэнтральны Камітэт Кампартыі Беларусі, чыім часопісам з'яўляецца «Политический собеседник», прааналізаваць работу рэдкалегіі і рэдакцыі часопіса і прыняць неабходныя захады да павышэння яго тэарэтычнага і журналісцкага ўзроўню, які адпавядаў бы задачам і мэтам перабудовы».

Толькі тады, калі мы будзем адкрыта заяўляць і адстойваць свае прынцыповыя пазіцыі, мы можам разлічваць на павагу і давер роднага народа. Давайце ж не толькі памятаць аб гэтым, а і кіравацца гэтым штодзённа — і ў кнігах, і ў грамадскай дзейнасці!



# ЗА ХЛЕБ, ЗА ГОНАР, ЗА ПРАЎДУ...

**Выступленне Васіля БЫКАВА**

Вядома, што на гэткім прадстаўнічым форуме, як наш з'езд, хацелася б гаварыць найперш пра чыста літаратурныя справы: пра нашы тэмы, стыль, ступені нашага літаратурнага майстэрства, пра нашых герояў-сучаснікаў так, як гэта мы рабілі пяць, дзесяць і дваццаць гадоў таму, калі шчыравалі з такіх трыбун, каб павярнуць літаратуру тварам да здзяйсненняў сучаснасці, да нашых герояў-працаўнікоў, да несумненных заслуг мудрага кіраўніцтва і, вядома ж, авангарднай ролі партыі, якая так паспяхова вяла нас ад перамогі да перамогі. Але вось настала прабуджэнне, хваравітае працверазенне пасля шматгадовай эйфарыі, і свет убачыў, што нашы героі — не больш, чым пухіры, надзьмутыя нашай фантазіяй, рай наш — нішто іншае, як галеча (па рэйтынгу на 57 месцы ў свеце), а «наш ум, честь и совесть» вяла нас туды, куды і сама не ведала. Значыць, завяла, як той міфічны Сусанін... Дзе цяпер выйсце з гэтага тупіка і заняпаду, у якім апынуліся, а найболей — у якіх яшчэ апынемся? А што апынемся, тое відавочна ўжо для цэлага свету.

І вось дзіва! Як ішлі ў той нерат — быццам ніхто і не заўважаў, не біў трывогу, не пратэставаў, не толькі не спаліў сябе на плошчы, як той беспрацоўны славацкі камуніст, але нават не пасварыўся з начальствам. Каб нічога таго не заўважалі, не бачылі, дзень і ноч побач грукаталі глушылкі і шчыравалі ўсе органы, парткомы, арганізацыі — ад ЦК да Саюза пісьменнікаў. Столькі сілы і грошай было патрачана на тое, каб схаваць найперш ад саміх сябе найвялікшы дзяржаўны сакрэт — бег да прорвы. Для таго ствараліся песні, пісаліся раманы. Краіна жыла ў штучна створанай і старанна падтрыманай эйфарыі благадзенства і праведнасці. Цяпер настала эйфарыя іншага зместу: эмоцыі гневу заклекаталі ў нашых грудзях. І гэта добра, што яшчэ захавалася здольнасць душы да неспакою, да хоць бы спазнелага і боязнага пратэсту. У тым пэўная ацэнка таго, што нацыя не ўмёрла ў сваёй стогадовай быдлячай пакорнасці.

Але перабудовачныя зрухі апошніх год абудзілі не толькі праведныя народныя эмоцыі. Прахапіліся ад спалоху і іншыя сілы. З розных куткоў краіны, і асабліва з верхніх паверхаў кіраўнічых гмахаў, пачуліся слёзныя крыкі: нішчацца высокія арыенціры, хістаюцца ўстоі, глядзі, рухне ўвесь так старанна збудаваны палац народаў і настане канец. Але каму канец? Калі чытаеш у «Политическом собеседнике» нескончоны лямант наконт пагібелі асноў, дык цяжка адмовіцца ад думкі, што некаму, відаць, ёсць што губляць са стратай тых шматгадовых устояў, інакш бы так не ламантавалі. І, праўда, ёсць. І сярод гэтых страт — найперш, вядома, яе вялікасць улада над уся і ўсім, чароўная адмычка ад усяго іншага жаданага і звабліваага ў жыцці.

Так, улада. Гэта некалі ў мінулым людзі імкнуліся да традыцыйных даброт жыцця: зямлі, грошай, маёмасці, — таго, што давалася працай, часам катаржнай працай некалькіх пакаленняў. Цяпер жа, каб дасягнуць жаданага, трэба зусім іншае і найперш — паслужлівасць. Розум, дзелавітасць, сумленне не толькі неабавязкова, але часцей за ўсё і замінае. Значыць, толькі паслужлівасць. Без гэтае самае распаўсюджанае пошасці веку не можа абысціся ніхто — ні чыноўнік, ні навуковец, ні мастак. Усё — талент, шчырасць, дабрыню, розум — перамагае магутны молах улады, тыя, хто мае ўладу, што на паўдарозе да яе, хто мае патэнцыяльныя дадзеныя для таго. Перад уладай не можа ўстаяць ніхто. І калі сярод нас знаходзяцца тыя, што могуць сёння сказаць, што яны не залежныя ад яе, што яны ўбераглíся ад яе смяротна-зваблівых чараў і жывуць вольнымі людзьмі, дык мы павінны зняць шапку перад гэтымі нешматлікімі людзьмі. Павінны, але ці здымем? Ці таму нас вучыць жыццё? Хутчэй за ўсё мы іх узненавідзім: за тое, што яны не такія, як мы, не такія дробязныя трапятуны, як многія, і могуць сказаць, што думаюць. І нават выйсці на плошчу. Але тым яны быццам прыніжаюць нашу мізэрную годнасць і прычыняюць клопат. А калі яшчэ да ўсяго дадаецца іх несумненны талент, дык наогул нашай непрыязі няма мяжы. Ужо тут мы не дамо ім узвысіцца хоць бы з прынцыпу. Мы іх імкнёмся прынізіць, паставіць у наш звыклы рад. Любячы літаратуру, усё ж сябе мы любім болей за ўсё. Раней для таго прыніжэння былі хлёсткія азначэнні: «попутчик», «вораг народа», «ідэалагічны дыверсант». Цяпер не меней хлёсткія: «нефармал», «дэмакрат», «народафронтавец». Але ці не час паразумнець некаторым нашым энтузіястам, у тым ліку і пісьменніцкім: часы ўсё ж мяняюцца.

Цяпер нярэдка пачуеш, што Саюз пісьменнікаў не адпавядае новаму часу, састарэла яго структура, патрабуе абнаўлення кіраўніцтва. Правільна, і састарэла, і не адпавядае. Але Саюз пісьменнікаў — гэта найперш мы самі, і кіраўніцтва такое, якога мы заслугоўваем, ні больш і ні менш. Калі паглядзець, палітычная свядомасць СП, нашы палітычныя ідэалы на ўзроўні свядомасці гуртка рыбаловаў-аматараў, дык чаго ж чакаць ад праўлення, прэзідыума, сакратарыята? І чаго чакаць ад народа, калі ягоную інтэлігенцыю, творцаў і майстроў прыгожага, столькі гадоў ператварылі ў нясмелую, замуштраваную групку дзіцячага садзіка, да якой найбольшае патрабаванне, каб сядзела ціха. І сядзелі ціха. Дзесяцігоддзямі сядзелі, бяскрыўдна дазваляючы папінаць сабою зграі ідэалагічных наглядчыкаў, сярод якіх адзін С. Паўлаў чаго варты. Я падтрымліваю сённяшнюю прапанову наконт выключэння Паўлава з Саюза пісьменнікаў, хоць бы за яго антынародную, антынацыянальную дзейнасць на яго ранейшай пасадзе, за тое, што ён увогуле пастараўся накіраваць іншыя класы супраць інтэлігенцыі, супраць творчых саюзаў і, канешне, дамогся ў гэтым сэнсе пэўных і значных поспехаў.

Людзі могуць быць розныя — беспрынцыпныя і бяспамятныя, гісторыя жыве па сваіх законах і рупна робіць свой беспрыстрасны рэестр. Ад яе пільнага вока не засцеражэцца ніхто. І тут нельга адкараскацца ад думкі, што мы, беларусы, нясём на сабе нейкую каінавую пячаць праклёну за невядома якія грахі, у мінулым ці будучым. Я ўжо не кажу пра Чарнобыль — гэты гіганцкі атамны генацыд, які, здаецца, усё ж дакanae нацыю. Асабліва пры такой эканоміцы і такой палітыцы, і такім начальстве, трэба сказаць. Незабыўны наш Караткевіч некалі расказваў прытчу, як Бог, стварыўшы зямлю, размяркоўваў яе між народамі. Нехлямяжыя беларусы, вядома ж, спазніліся. Усё ўжо было падзелена, апроч аднаго райскага кутка з мяккім кліматам, лясамі і барамі, рыбнымі рэкамі, урадлівымі палямі. І гэты куток Бог аддаў беларусам. Але каб тыя занадта не ганарыліся, прыставіў да іх надта ж благое начальства. За шмат стагоддзяў, што мінулі з тых біблейскіх часоў, парадзелі лясы, запаскудзіліся рэкі, клімат змяніўся, але якасць нашага начальства застаецца нязменнай.

Столькі гадоў нацыя без лідэра. Ва ўмовах дэмакратыі дык, можа, гэта было б і няблага, але ж нам да дэмакратыі — як да таго гарызонту, які ўсё аддаляецца. Пакаленні пражылі без яе і, мусіць, яшчэ будуць жыць новыя. Але як во пражыць без начальства? Азіраючыся цяпер назад, пры не надта і вялікім веку, бачыш, як небагата было сярод іх вялікага мноства людзей людскіх, у якіх за гады іхняй кар'еры не вытруцілася чалавечае ў душы. Зрэшты, мы не максімалісты. Беларусь абышлася б і без выдатнага кіраўніцтва, але з такім, якое б не шкодзіла, не душыла, не цугляла нацыю на кожным кроку. А то па цугляннню наша рэспубліка, безумоўна, самая перадавая ў Саюзе. Нездарма Алесь Адамовіч так трапна ахрысціў яе «вандэяй перабудовы».

Сапраўды, на што мы дзесяткі гадоў трацілі свой грамадзянскі імпэт, свой творчы запал? На змаганне за тое, што даўно ўжо дасягнута ў самых слабаразвітых краінах, што для якой-небудзь Верхняй Вольты — пройдзены і забыты этап. Дзесяткі гадоў мы змагаліся за родную мову, некаторыя касцьмі клаліся ў тым змаганні, як, напрыклад, Уладзімір Дамашэвіч, калі памятаеце. Закідвалі пісьмамі і енкамі ЦК КПСС, Гарбачова, за што іх пасля па адным цягалі ў ЦК на допыты, па сутнасці, на здзек, бо ўсе пункты скаргаў ЦК КПБ разам з падначаленымі яму міністэрствамі настойліва абвяргалі. І гэтыя скаржнікі выступалі ў якасці, канешне ж, паклёпнікаў. Сёння, калі абставіны трохі змяніліся, аддамо належнае нашым братам — мастакам Беларусі, некаторым з навукоўцаў, настаўнікам, імёны якіх цяпер і не ўспамінаюцца. Гэта цяпер, калі стала можна, Таварыства беларускай мовы раскашуе ва ўсенародным афіцыйным прызнанні, і дай яму Бог раскашаваць далей. Тое, што гэта таварыства робіць, вядома, трэба рабіць, але і не трэба заспакойвацца, па сутнасці, нічога яшчэ не дасягнута. Трэба зразумець, што доўгачаканы акт надання дзяржаўнасці беларускай мове не больш чым чарговы бюракратычны манеўр, нацыянальны падман. Пры цяперашніх далёкіх ад дэмакратыі пазіцыях нашага кіраўніцтва праблема нацыянальнай мовы застаецца пад вялікім пытаннем. Для таго, каб беларуская мова стала сапраўды народнаю, дзяржаўнай моваю, відаць, патрэбна змена ўсяго антынацыянальнага, сервілісцкага ладу на суверэнны, дэмакратычны, што пакуль нам і не свеціць. Мабыць, мы яшчэ не дараслі да таго. Да таго дарасла Балція, а не Беларусь, рукамі якой цяпер спрабуюць душыць яе боскую ініцыятыву да волі. Саюзны Вярхоўны Савет прымае законы аб крымінальнай адказнасці за тэрытарыяльныя прэтэнзіі, а Прэзідыум Вярхоўнага Савета нашай рэспублікі выдае заявы аб такой прэтэнзіі да Літвы. Сорам гэтай ганебнай акцыі падае, вядома, і на нас, творчую інтэлігенцыю. Нам найболей адказваць за ганебныя акты, якія падпісваюцца тымі, хто, бы матылі, з'яўляецца і знікае, ні за што не адказваючы. Як яны ні ў нас, ні ў Маскве не адказвалі ні за Венгрыю пяцьдзесят шостага года, ні за Чэхаславакію шэсцьдзесят восьмага года, ні за Афганістан. Нам жа заставацца на гэтай зямлі і ў яе гісторыі, і, значыць, несці гістарычную адказнасць.

Могуць сказаць: а што мы можам? Сапраўды, што? Мы самі задушаныя, нямыя і бяспраўныя. Дзесяткі год мы змагаліся за рэабілітацыю нашых няшчасных праведнікаў — ад Гаруна да Гартнага і пяці дзесяткаў іншых дзеячаў культуры, на якіх ужо рыхтаваліся новыя абвінавачванні, так сказаць, пасмяротныя, на другім заходзе. Год назад Прэзідыум Вярхоўнага Савета БССР праз Вярхоўны суд рэспублікі ўрэшце рэабілітаваў вялікую іх групу, але без удзелу кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў. Кіраўніцтва Саюза пісьменнікаў у той час вяло зацятую вайну з беларускім народным фронтам і нават не пасварылася з начальствам. Як жа? А раптам начальства разгневаецца і адмовіць у сваёй панскай міласці?

Факт ганебнага ўварвання ў пошуках бомбы, вядома ж, ніхто не расследаваў, і не развеяны падазрэнні, што некаторыя з апаратчыкаў СП і навялі міліцыю на гэты начны ўзлом. Я ўстрымліваюся ад каментарыя гэтага факта, няхай яго ацэніць наша шаноўная грамада. І што ж, на тым усё сціхла? Бомбу не знайшлі, дакументы забралі і ўсё скончылася? Скончылася хіба ў аператыўных зводках карных органаў, але для гісторыі толькі пачынаецца. І ўсё тое, безумоўна, праявіцца ў жыцці наступных пакаленняў, дзяцей тых дзяўчынак і хлопчыкаў, якіх лупцавалі веласіпеднымі ланцугамі каля Траецкага прадмесця, якіх труцілі газамі каля Маскоўскіх могілак, білі міліцэйскімі палкамі каля Курапат, дзе здаўна ляжаць у брацкіх магілах іхнія дзяды і прадзеды. Такое не забываецца, не знікае ў памяці народа і ягонай гісторыі, якія б высілкі для таго ні рабілі партыя, КДБ, МУС, нашы псеўдавучоныя ад Абэцэдарскага да Залескага.

(Працяг на стар. 8).

# ШТО Ж ТАДЫ АБ'ЯДНАЕ?



**Выступленне Ніла ГІЛЕВІЧА**

Сёння — 4 гады чарнобыльскай трагедыі. Для нас — 4 гады новага летазлічэння. Да гэтага часу лік гадоў мы вялі ад нараджэння Хрыста — і налічылі амаль не 2000. Цяпер будзе справядліва, як бачым, пачаць нам, на Беларусі, новае летазлічэнне. У тым ліку — і ў дачыненні да літаратуры, да яе гісторыі. Я паўтараю тое, што сказаў яшчэ ў кастрычніку 1986 года ў Балгарыі, у Сафіі, на міжнародным форуме пісьменнікаў — «Мір — надзея планеты», а менавіта — што для беларускай літаратуры пачынаецца новая гістарычная эра — настолькі вялікая і страшная падзея здарылася. Гэта ўсенародная бяда прымусіла, ці павінна прымусіць нас па-іншаму паглядзець на ўсю гісторыю Беларусі і на гісторыю беларускай літаратуры ў прыватнасці. А іменна, паглядзець на нашу гісторыю як на несупынную трагедыю. Калі нават пачнём не з самай глыбокай старажытнасці — першым яе актам была Люблінская унія 1569 года, затым Берасцейская унія 1596 года, затым забарона беларускай мовы ў 1697 годзе, пасля — разгром паўстання Каліноўскага, пасля — грамадзянская вайна 1918—21 гадоў, пасля — усё тое жахлівае, што суправаджала калектывізацыю, пасля — жуткі гвалт над душой народа ў акупіраванай Заходняй Беларусі, пасля — пагалоўнае вынішчэнне нацыянальнай інтэлігенцыі і наогул цвету нацыі ў рэпрэсіях 30-х гадоў, пасля — Вялікая Айчынная вайна і фашысцкая акупацыя Беларусі з масавым вынішчэннем насельніцтва, а праз увесь гэты час — апусташэнне і нявечанне мільёнаў душ няпраўдай, хлуснёй і страхам. І вось, нарэшце, Чарнобыль — нешта настолькі пагрознае для лёсу нашага народа, чаго і ў самых кашмарных снах прысніць не маглі мы...

Вось і прыгадалася мне тады купалаўскае «А хто там ідзе?». І падумалася, што як быццам на двары другі час, другая эпоха, што і плечы ў нас не такія ўжо худыя, і крыві на руках няма, і ногі нашы не ў лапцях, — а крыўд хапае. І не мора іх ужо, здаецца, а цэлы акіян.

Быць альбо не быць?

І яшчэ — «за што?!»

«За што?!» — чуецца нам з безыменных курапацкіх магіл.

«За што?!» — крычым мы разам з героем быкаўскай аповесці «Аблава» Хведарам Роўбай.

«За што?!» — напісана на бледных, прыхопленых радыяцыяй тварыках дзяцей у гематалагічнай клініцы.

«За што?!»—успыхвае ў вачах юнака, які з уласцівым маладосці наіўным максімалізмам паверыў у перабудову і адраджэнне, у магчымасць гаварыць на роднай мове, а над галавой якога не-не ды і завісае міліцэйская дубінка...

«За што?!», «Чаму?», «Як гэта так?» — гэтыя пытанні гучаць сёння, у наш так званы перабудовачны, так званы пераходны час і ў жыцці, і ў літаратуры. Менавіта яны, гэтыя пытанні, за якімі крыўды чалавека і крыўда за чалавека, складаюць галоўны нерв новай п'есы Аляксея Дударава, новай аповесці Віктара Казько, выступленняў Генадзя Бураўкіна і Ніла Гілевіча, новых вершаў Максіма Танка, Пімена Панчанкі, Максіма Лужаніна, Уладзіміра Някляева, Ніны Мацяш, Людмілы Паўлікавай, Сяргея Законнікава, Галіны Каржанеўскай, Сержука Сокалава-Воюша, Васіля Жуковіча, Міколы Янчанкі, Міхася Шэлехава (называю вершы, што змяшчаліся нядаўна ў «ЛіМе»)...

Апошнім часам у дыскусіях аб нашай новай, кастрычніцкай і паслякастрычніцкай гісторыі не-не ды і выказваецца думка, што Кастрычніцкая рэвалюцыя — з'ява акцыдэнтная, гістарычна не абумоўленая. Думаю, што для такога сцвярджэння недастаткова падстаў. Бо — успомнім Горкага — нідзе так, як у Расіі, не адносіліся дрэнна да чалавека, нідзе так, як у царскай імперыі, так яго, чалавека, не зневажалі. Успомнім тут адпаведныя мастацкія сведчанні Цёткі, Купалы, Коласа, Багдановіча, Гарэцкага...

**Народ, беларускі народ!**
**Ты цёмны, сляпы, быццам крот.**
**Табою ўсягды пагарджалі,**
**Цябе не пушчалі з ярма**
**І душу тваю абакралі, —**
**У ёй нават мовы няма...**

Так што гаручага матэрыялу для рэвалюцыі было больш чым дастаткова, дастаткова было гэтага самага «мора крыўд».

Іншая справа, як рэалізоўваўся — і дадам: рэалізуецца — гуманістычны зарад рэвалюцыі, што атрымалася ў рэальнасці з добрых намераў і высакародных парыванняў. Леў Талстой любіў паўтараць адну ўсходнюю прыказку: «Спалі каран, служы ідалам, зняслаў Каабу, але не крыўдзі чалавека». Чалавек — не сродак, а мэта, чалавек — мера рэчаў, чалавек — вянец прыроды... Не крыўдзі чалавека! Але крыўдзілі. І яшчэ як крыўдзілі!

І працягваем, як ужо гаварылася, крыўдзіць. І суб'ектыўна і аб'ектыўна. І прама і ўскосна. І маральна і фізічна... Чаго не хапае перабудове, дык гэта перш за ўсё, па-мойму, рашучага і паслядоўнага адмаўлення ўсякай бесчалавечнасці, рашучай і паслядоўнай гуманізацыі ўсіх сфер жыцця (калі гэта гучыць не вельмі наіўна). Мы гаворым пра неабходнасць усталявання грамадзянскага, прававога грамадства, але часта ўпускаем з поля гледжання адну «дэталь»: «фундаментам права з'яўляецца гуманнасць» (Альберт Швейцар).

Мяне бянтэжыць, у прыватнасці, тэндэнцыя разглядаць па-ранейшаму чалавека не як мэту, а як сродак, не як суб'ект палітыкі, права, вытворчасці, а як іх аб'ект. Калі вы помніце, мы ў «ЛіМе» не так даўно спрачаліся з нашым партыйным лідэрам па пытанні аб тым, «хто накорміць краіну». Маю на ўвазе артыкул пад такой назвай ўрача і юрыста Я. Новікава, нядаўна стаўшага народным дэпутатам БССР. Са спасылкамі на працы Маркса было пераканаўча даказана, што цэнтрам грамадства, цэнтрам грамадскіх адносін павінен быць чалавек, вытворца, а не дзяржава, гэта значыць: чыноўнікі, тыя, хто кіруе, кантралюе, вядзе ўлік, размяркоўвае і г. д.

Сёння прыходзіцца прадоўжыць нашу палеміку з першым сакратаром ЦК КПБ. Ён даў для гэтага падставу, выказаўшы крыху дзіўны погляд на тыя працэсы, якія назіраюцца сёння ў грамадска-палітычным жыцці рэспублікі. «Нарастаюць страты ў народнай гаспадарцы, звязаныя з «мітынговай дэмакратыяй», гаварыў у сваім дакладзе пленуму ЦК Я. Я. Сакалоў. — За мінулы год толькі ў прамысловасці і будаўніцтве страчана каля 800 тысяч чалавека-дзён, або на 36 працэнтаў больш, чым за папярэдні год. Рэспубліка недаатрымала прамысловай і будаўнічай прадукцыі на 100 млн. рублёў. Удумайцеся, таварышы, у гэтыя лічбы...»

Я ўдумаўся. Я падумаў: хто і як гэтыя лічбы вызначыў? Гэта па-першае. Па-другое: выходзіць, каб не мітынгі (а яны ж, да слова, адбываліся, як правіла, у выхадныя дні або пасля працы), каб не дэмакратызацыя, не палітызацыя мас, а інакш кажучы, каб не перабудова, то... То ўсё было б у парадку. Дзіўная логіка, ці не праўда? Але мяне тут бянтэжыць не сама логіка, не столькі тэкст, колькі падтэкст. А ён, калі я яго правільна зразумеў, зводзіцца да таго, што чалавеку адмаўляецца ў праве быць грамадзянінам і дазваляецца быць толькі працаўніком... Крыўдзяць грамадзяне начальнікі радавых грамадзян!

Чаму рашыў гаварыць пра «мора крыўд», чаму вырашыў выдзеліць менавіта гэту тэму? Відаць, не толькі таму, што задумаўся над урокамі класікаў. Справа, відаць, яшчэ і ў тым, што нядаўна, разбіраючы даўнія запісы, наткнуўся раптам на шматгадовай даўнасці, з часу студэнцтва, занатоўку: «Пражыць бы жыццё так, каб нікога не пакрыўдзіць». Так некалі фармуляваў сваё жыццёвае, так сказаць, крэда. Спытаецеся, ці атрымалася. Не зусім... Магчыма, і гэтым выступленнем некага пакрыўдзіў.

А з другога боку: тое ж самае жыццё не раз ставіла і ставіць сёння перад суровым, жорсткім выбарам:

Быць альбо не быць?..

Вось чаму на ўсю нашу літаратуру трэба глядзець як на трагічную ў самой яе змястоўнай сутнасці.

Прыйшоў час рашуча і канчаткова адкінуць ненавуковыя, фальшывыя і вульгарызатарскія канцэпцыі гісторыі Беларусі, беларускай грамадскай думкі, беларускай культуры, распрацаваныя ў нашай Акадэміі навук і на кафедрах ВНУ пасля 1930 года, г. зн. пасля пагрому і вынішчэння сапраўдных навуковых сіл. Чым хутчэй мы гэта зробім — тым лепш, бо для вялікай работы па адраджэнні Беларусі патрэбен сур'ёзны навуковы грунт.

Непасрэдна пра літаратуру гаворкі на з'ездзе пакуль што, на жаль, амаль не вялося. Што зробіш! Відаць, вельмі баліць, турбуе і займае думкі іншае. І калі ўжо працягваць гаворку пра іншае, дык у маім разуменні — перад беларускімі літаратарамі стаяць дзве галоўныя задачы. Па-першае, ратаваць нашу зямлю і жыццё на ёй, жыццё людзей нашых; колькі хопіць сіл у нас — трэба рабіць усё, каб дапамагчы, пасадзейнічаць гэтаму выратаванню. Учора Вярхоўны Савет СССР зацвердзіў Чарнобыльскую праграму на бліжэйшыя два гады — на першы этап, праграму-мінімум. Добра, вядома, але нават само абмеркаванне, я лічу, было крыўдным для беларускага народа, на долю якога прыпала 70% ад усёй забруджанай смертаноснымі радыенуклідамі тэрыторыі.

Другая задача, на якой я спынюся трохі больш, гэта — выратаванне нашай мовы і культуры, і праз гэта — жыццё на Беларусі зрабіць беларускім. Я не агаварыўся — іменна беларускім. Да гэтага часу мы яго рабілі савецкім, сацыялістычным, інтэрнацыянальным, усё гэта добра, і было б зусім добра, калі б пры гэтым яно не рабілася ўсё менш беларускім. Дык вось — трэба вярнуць яму нацыянальнае аблічча, трэба ўвесь стыль жыцця троху-патроху перайначыць на наш адметны самабытны беларускі лад, які ў нас калісьці быў. Без гэтага, як вы разумееце, уласнай будучыні ў нас, у нашага народа быць не можа. Як мы дапаможам свайму народу ў гэтым яго духоўным адраджэнні — пытанне няпростае. Тут ад нас, пісьменнікаў, патрабуюцца не толькі добрыя, таленавітыя, праўдзівыя творы, але і вельмі вялікая грамадская праца і, калі хочаце, і стойкасць, і мужнасць, і цярпенне.

Адносіны да беларускай літаратуры ў нашым грамадстве калі і пачалі мяняцца, дык толькі ледзь-ледзь — і, можа быць, перш за ўсё тут, у Мінску, у сталіцы. Ствараюцца курсы па вывучэнню беларускай мовы, праводзяцца семінары і лекторыі для партыйна-савецкіх работнікаў, для камсамольскага актыву. У СМ распрацоўваецца дзяржаўная праграма ажыццяўлення Закона аб мовах у рэспубліцы. Напомню, дарэчы, што ў сілу закон уступае з 1-га верасня. Вядома, менавіта тады самыя вялікія цяжкасці ў сваёй працы мы і напаткаем. Тым больш, што Вярхоўны Савет абвясціў рускую мову афіцыйнай мовай СССР — і мы не наіўныя, разумеем, што г. зн. дзяржаўнай.

Вы ведаеце, як далёка ў нас зайшло руйнаванне беларускай нацыянальнай культуры. Мабыць, ні ў аднаго народа ў гісторыі не было такіх гнюсных здзекаў з народнае душы, як у Беларусі — і пры шматлікіх каралях-царах, і доўга пасля... Пачытайце ў «Камуністе Беларусі» № 4 архіўную публікацыю-пісьмо ЦК КПБ ад 25.1.1929 года наконт нацыяналізму ў асяроддзі беларускіх навукоўцаў і літаратараў. Малапісьменныя жандары ад мастацтва і навукі нават прозвішчы нашых слаўных паэтаў і пісьменнікаў правільна напісаць не ўмелі, а як яны здзекаваліся з іх! З іх — і з нас, нашчадкаў тых, каго загналі ў Курапаты або на Калыму.

У сувязі са сказаным трэба забараніць у нас у Беларусі карыстацца сёння паняццем «беларускі нацыяналізм». Інакшай — нейкі абсурд: нацыянальная культура ў страшным заняпадзе, вытручана з душ мільёнаў нацыянальная самасвядомасць — і ў такой сітуацыі крычаць пра пагрозу беларускага нацыяналізму!

Гэтаксама нельга ў нас, у Беларусі, гаварыць, а тым больш крычаць, пра рэальнае двухмоўе і пра інтэрнацыяналізм, бо гэта святатацтва і здзек з народа, чыя культура знаходзіцца ў такім складаным становішчы. Не трэба высокіх слоў, хоць яны і вельмі добрыя самі па сабе, не трэба. Лепш хоць на нейкі час устрымацца ад іх — з элементарнага пачуцця прыстойнасці.

З гэтай трыбуны справядліва крытыкаваўся часопіс «Политический собеседник», які некаторымі сваімі артыкуламі па сутнасці спрыяе абуджэнню і распальванню міжнацыянальнай непрыязі і варажнечы. Брыдка ўсё гэта, непрыгожа, і вельмі крыўдна, што гэта мае месца — на зямлі народа, адвеку слыннага сваёй талерантнасцю, міралюбнасцю і дружалюбнасцю, чым мы заўсёды даражым і, спадзяюся, будзем даражыць. Ну, але ладна, у гэтага часопіса хоць тыраж невялікі. А вось што рабіць мне, якога месяцы тры назад абвясціла ваяўнічым шавіністам многамільённая ўсесаюзная «Литературная газета»? У публікацыі двух бойкіх на пяро супрацоўнікаў Інстытута літаратуры АН БССР сцвярджаецца, што нібыта я ў вершы «На новым вітку» патрабую выгнання з Беларусі «некоренного населения». Ні больш, ні менш. Уяўляеце, калі б такое ў 37-м апублікавалі таварышы крытыкі! Я з абурэннем адмятаю гэты паклёп. Ні адзін з маіх рускіх, украінскіх, яўрэйскіх, татарскіх і іншых па нацыянальнасці сяброў і таварышаў, побач з якімі я жыву і працую тут, у нашым агульным доме, не паверыць гэтай інсінуацыі.

Месяц з гакам назад ужо наша рэспубліканская газета «Знамя юности» апавясціла сваіх чытачоў, што ў тым жа вершы «На новым вітку» ёсць «спекуляция на национальных чувствах», — вядома ж, у артыкуле аднаго з тых самых акадэмічных аўтараў. Уявіце сабе: цяжкахворы чалавек, знаходзіцца ў крытычным стане, калі нічога не рабіць — то можа пачацца перадсмяротная агонія, і родныя-блізкія, якім гэты чалавек бясконца дарагі, кідаюцца шукаць хоць якой-небудзь рады, хапаюцца ў роспачы за любы сродак, каб толькі ўратаваць, ні ўдзень, ні ўночы не адыходзяць ад хворага, знебыліся ад пакут, выбіваюцца з апошніх сіл, а ім — дасведчаныя адукаваныя людзі заяўляюць: што вы спекулюеце на стане яго здароўя? Што вы без падстаў падымаеце паніку? Якое ж трэба мець сумленне і сэрца, каб дазволіць сабе такое!

Уся прычына ў тым, што для адных пытанне аб беларускай мове і культуры — пытанне іх уласнага лёсу, сэнсу жыцця, а для другіх — толькі «предмет досужих разговоров», кажучы па-руску, практыкаванне ў пустаслоўі. У гэтым і ўся розніца.

Хацеў бы ў сувязі з гэтым нагадаць пра адзін факт з нашай нядаўняй літаратурнай гісторыі. Вядома, што пасля XX з'езда КПСС некаторыя крытыкі з каманды Лукаша Бэнды хадзілі па публічных бібліятэках, бралі старыя падшыўкі газет і, па-зладзейску азіраючыся, выразалі свае артыкулы, у якіх яны выкрывалі беларускіх нацыяналістаў — каб не засталося слядоў іх подлай работы. Ці не прыйдзецца аднойчы і сяму-таму з нашых сучаснікаў заняцца такой жа няўдзячнай справай?

Таварышы, калі нават Чарнобыль не аб'яднае нас — не вызваліць душы ад дробязлівага, нядобрага, зласлівага, пошлага, жорсткага — дык што ж тады аб'яднае?..

# АДРАДЖЭННЕ— ПРАДАЎЖАЕЦЦА



**Выступленне Алега ЛОЙКІ**

Я хачу запыніць вашу ўвагу на моманце, звязаным з адраджэннем як такім — гэта па-першае, і, па-другое, з такой з'явай, якая тут не называлася і якая родам з XIX стагоддзя і вядзе радавод ад пачатку партый. Напачатку хачу пагаварыць аб фанатызме. Мы прадаўжаем жыць пад абладай фанатызму, ваяўнічага фанатызму, шмат у чым амаральнага, шмат у чым бескультурнага, ну і вядома, фанатызму, які заўсёды суседнічае, мяжуе з дагматызмам або проста з невуцтвам. Фанатызм — рэч вельмі страшная, не мне, відаць, тут даказваць, але я хачу ўсё-такі звярнуць ува

(Працяг на стар. 14).

# Дом Скарыны ў Познані

У зборніку дакументаў і матэрыялаў «Францыск Скарына» (укл. В. І. Дарашкевіч, Мн., 1988) надрукавана на лацінскай мове з перакладамі на беларускую і рускую 17 дакументаў, якія датычаць дзвюх познанскіх судовых спраў, што паўплывалі на жыццёвы шлях беларускага асветніка і першадрукара.

З іх высвятляецца, што Скарына бываў у Познані некалькі разоў на працягу 1529—1532 гадоў і спыняўся там на працяглы час. Жыў ён, як вынікае з дакументаў, у доме-камяніцы «шаноўнага Якоба Корба, грамадзяніна познанскага». У падвале гэтага дома захоўвалася мноства скуранога і футравага тавару Івана Скарыны, які памёр у 1529 годзе. Туды ж прыязджаў Францыск і ў гэтым жа доме атрымаў сваю і жончыну частку ад купецкай супольнасці з братам. Я. Корб і раней быў цесна звязаны з сямействам Скарынаў.

Да гэтага часу ніхто не спрабаваў высветліць, дзе ж знаходзіўся дом Я. Корба, ці захаваўся ён да нашага часу. Познанскія дакументы цалкам надрукаваны зусім нядаўна, хоць яны на працягу чатырох з паловай стагоддзяў захоўваліся ў познанскім архіве. А ў 1926 г. яны былі там знойдзены і часткова пераказаны польскай даследчыцай М. Вайцяхоўскай. Пазней да іх звяртаўся М. Гембаровіч і многія іншыя.

Багатае купецкае сямейства Корбаў да сярэдзіны XVI ст. было дастаткова вядомым у Познані. Яму належалі ў цэнтры горада на Рынкавай плошчы тры каменныя дамы. Дарэчы, амаль усе дамы на старым рынку захаваліся з часоў сярэдневякоўя і рэнесансу да нашых дзён.

Камяніца нумар 42 належала ў 1534 г. купцу Паўлу Корбу. Побач з ёю стаіць камяніца, якая ў свой час належала доктару медыцыны Валенцію Рэшку з Старагарда (1462—1557), які неаднаразова выбіраўся бурмістрам Познані. У дакументах, якія датычаць Скарыны, ён таксама ўпамінаецца двойчы, адзін раз— як познанскі бурмістр, перад якім Скарына прад'явіў указ караля аб сваім вызваленні з турмы. Аднак у зборніку дакументаў пра Скарыну (с. 147, 149, 152) ён жа названы з памылкамі: «пан Валянцін Скаргардыян», што можа выклікаць у гісторыкаў і скарыназнаўцаў непаразуменні.

Галоўны дом Корбаў знаходзіўся там жа пад нумарам 82. У 1514 г. ён належаў нейкаму Бау. але ў 1534 г. — згодна з рэестрам — менавіта Якобу Корбу.

Ёсць у перакладах дакументаў зборніка істотныя недакладнасці. Напрыклад, на стар. 110 гаворыцца (толькі ў перакладах) аб маёмасці нябожчыка Івана Скарыны, нібыта «канфіскаванай у падвале пад домам Якаба Корбы». Канфіскацыя ж, як вядома, прадугледжвае прымусовае беззваротнае адчужэнне маёмасці ў карысць дзяржавы. Нічога падобнага ў Познані ў 1529 г. не адбылося і не магло адбыцца. І ў арыгінале гэтага дакумента выкарыстана познелацінскае слова «arestata», якое можна нават не перакладаць, а толькі ўзгадніць са сказам, бо яно азначае «арышт», «затрыманне», але не канфіскацыю. Гэта неабходна падкрэсліць таму, што і ў біяграфіях Францыска Скарыны было і застаецца шмат выдуманых перакладчыкамі канфіскацый маёмасці, якіх на самай справе ніколі не было.

А ў сярэдзіне XVI ст. вышэйназваны дом ужо стаў уласнасцю Станіслава Схомбека.

Дом, у якім неаднаразова бываў Францыск Скарына, не згубіўся на працягу многіх стагоддзяў. Цяпер ён — адзіны ў свеце, які захоўвае водгук крокаў нашага славутага земляка. Такіх дамоў, акрамя даўніх універсітэцкіх памяшканняў, невядома ні ў Кракаве і Падуі, ні ў Нюрнбергу і ў Празе, ні ў Вільнюсе і ў Калінінградзе (Кёнігсбергу), ні ў родным для Скарыны Полацку.

Варта было б паклапаціцца тым, хто мае на гэта магчымасць, каб у вызначаны ЮНЕСКА год святкавання 500-гадовага юбілею Францыска Скарыны на фасадзе дома нумар 82 на Рынкавай плошчы ў Познані з'явілася адпаведная мемарыяльная дошка. Яна б стала тут пакуль што адзіным сімвалам непасрэднай сувязі сучаснікаў са Скарынам.

Што ж датычыць сярэдневяковай познанскай турмы, у якой беспадстаўна сядзеў Ф. Скарына, дык і пра яе з'явіліся некаторыя звесткі ў польскім гісторыка - краязнаўчым даведніку, які неаднаразова выдаваўся ў канцы 1960-х — пачатку 1970-х гг. Гэтае жудаснае збудаванне таксама захавалася да нашых дзён. Яно было, бадай, самым пачварным ва ўсёй Еўропе: заўжды сырыя адзіночныя камеры былі размешчаны ў мосце праз раку Варту. Краты былі зверху, — па іх шасталі познанскія мяшчане і заезджыя купцы. Хто пляваў уніз на галовы вязняў, хто кідаў сухую скарынку хлеба ці якінебудзь агрызак... Наш першадрукар, асветнік і высокаадукаваны медык, сядзеў у гэтай турме без усялякіх падстаў, па ўказу самаўладнага і жорсткага караля, які ўрэшце вымушаны быў цалкам апраўдаць Скарыну і нават узяць яго пад уласную апеку.

Генадзь ЛЕБЕДЗЕЎ.

# БЫЦЬ НОВАМУ ФОНДУ

Шмат стагоддзяў жывуць яўрэі на тэрыторыі Беларусі. Першае ўпамінанне пра яўрэяў — жыхароў Мінска— адносіцца да 1489 года.

У XVII—XIX стст. праз Беларусь праходзіла ўстаноўленая царскім урадам рыса аседласці, у выніку чаго яўрэйскае насельніцтва Беларусі ў 1897 годзе складала 13,6 працэнта, а ў гарадах і мястэчках часам даходзіла да 80 працэнтаў (у Мінску— 52 працэнты).

Беларусь з'яўлялася адным з важнейшых цэнтраў яўрэйскага духоўнага жыцця ў Расіі. У прыватнасці, у Валожыне і Міры знаходзіліся вядомыя ва ўсім свеце рэлігійныя навучальныя ўстановы — іешывы, у якіх займаліся навучэнцы з многіх краін Еўропы і Амерыкі.

Пасля Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі развіццё яўрэйскай культуры ў Беларусі атрымала магутны штуршок: яўрэйская мова выкладалася ў школах, педагагічных інстытутах і тэхнікумах. У Інстытуце беларускай культуры існавала яўрэйскае аддзяленне з філалагічным, літаратурным і гістарычным сектарамі. Пры Белдзяржуніверсітэце існаваў інстытут, які рыхтаваў настаўнікаў для яўрэйскіх школ.

Шматвяковае існаванне яўрэяў на беларускай зямлі пакінула пасля сябе шматлікія помнікі архітэктуры і будаўніцтва, выдатныя культурныя каштоўнасці, помнікі літаратуры і рукапісныя тэксты. Жыццё яўрэйскага народа ўвасобілі на сваіх палотнах Марк Шагал і Юдэль Пэн.

У гады другой сусветнай вайны яўрэйская культура ў Беларусі панесла непапраўныя страты. Былі не толькі знішчаны многія сотні тысяч яўрэяў, але аказаліся разбуранымі ці не большасць помнікаў яўрэйскай культуры.

Перакосы ў сталінскай і брэжнеўскай нацыянальнай палітыцы ўзмацнілі працэс заняпаду яўрэйскай культуры, нават ў наш перабудовачны час мы сутыкаемся з фактамі апаганьвання і знішчэння яўрэйскіх нацыянальных святыняў.

Настаў час падумаць пра тое, як захаваць нямногае, што засталося ў спадчыну нашаму пакаленню, адрадзіць сучасную яўрэйскую культуру: могілкі, абеліскі, будынкі, кнігі, рукапісы, фальклор, рэлігійныя святыні — усё тое, што ўзмацняе нашу гістарычную памяць, нацыянальную самасвядомасць і годнасць.

Мы, заснавальнікі Фонду захавання яўрэйскай гістарычнай спадчыны, звяртаемся да ўсіх зацікаўленых арганізацый і прыватных асоб з заклікам прыняць удзел у дзейнасці фонду, не на словах, а на справе прадэманстраваць імкненне народаў да дружбы, узаемаразумення, узаемадапамогі і інтэрнацыянальнай еднасці.

**Л. ГУТМАН, старшыня яўрэйскай рэлігійнай абшчыны; М. ДАНЦЫГ, заслужаны дзеяч мастацтваў БССР, старшыня аб'яднання яўрэйскай культуры; Л. ЛЕВІН, лаўрэат Ленінскай прэміі, заслужаны архітэктар БССР; І. ЧЫГРЫНАЎ, старшыня праўлення Беларускага фонду культуры; Г. БУРАЛКІН, старшыня СМ БССР; В. ЗУЁНАК, старшыня рады СП Беларусі; М. ЯРОМЕНКА, старшыня праўлення СТД БССР; І. ХАРАШЭВІЧ, упраўляючы справамі Беларускага Экзархата, протаіерэй.**

Жадаючыя прыняць удзел у стварэнні і дзейнасці фонду, пазнаёміцца з яго статутам могуць звярнуцца па адрасе: 220002 г. Мінск, вул. Крапоткіна, 22, яўрэйская рэлігійная абшчына, арганізацыйны камітэт па стварэнні Фонду захавання яўрэйскай гістарычнай спадчыны.




**З 21 ПА 27 МАЯ ДА СВЯТА СЛАВЯНСКАГА ПІСЬМЕНСТВА І КУЛЬТУРЫ У БЕЛАРУСІ**

**21 мая. 16.55**

**Прэм'ера дакументальнага фільма «ФРАНЦЫСК, СЫН СКАРЫНІН». Аўтар сцэнарыя А. Петрашкевіч. Рэжысёр С. Гайдук.**

**23 мая. 17.00**

**Прэс-канферэнцыя, прысвечаная Святу славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі.**

**Трансляцыя з Дома літаратара.**

**23 мая. 19.25**

**Да Свята славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі.**

**Выступленне ансамбля народнай музыкі «ЖЫВІЦА» Дзяржтэлерадыё БССР.**

**24 мая. 11.30**

**Малебен у памяць святых раўнаапостальных Мяфодзія і Кірылы — першанастаўнікаў славянскіх.**

**24 мая. 17.55**

**«Глыток волі». Пра мастацкі фільм «Маці Урагану» паводле У. Караткевіча.**

**24 мая. 19.30**

**Урачыстае адкрыццё Свята славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі.**

**Трансляцыя з ДАВТа БССР.**

**25 мая. 19.00**

**Дабрачынны канцэрт, прымеркаваны да Свята славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі.**

**25 мая. 21.00**

**Спектакль ДАВТа БССР.**

**У. Солтан «ДЗІКАЕ ПАЛЯВАННЕ КАРАЛЯ СТАХА» паводле аповесці У. Караткевіча.**

**Рэжысёр-пастаноўшчык В. Цюпа.**

**Галоўныя партыі выконваюць Я. Пятроў, У. Экнадзіёсаў, В. Скарабагатаў, Н. Кастэнка, І. Шупеніч.**

**26 мая. 14.00**

**«КРУГЛЫ СТОЛ».**

**Сустрэча беларускіх і рускіх літаратараў.**

**27 мая. 11.00**

**«ВЕРУЮ...». Спектакль Мінскага тэатра моды, прысвечаны 500-годдзю Ф. Скарыны, адлюстроўвае погляды сучаснага мастака на творчую спадчыну беларускага рэнесансу.**

**У перадачу ўключаны інтэрв'ю з аўтарам калекцыі мадэлей І. Булгакавай і рэжысёрам Тэатра моды А. Варламавым.**

**27 мая. 11.45**

**Экран: праблемы, героі...**

**Вынікі кінафестывалю «Вясна-90». Вядучы — журналіст В. Небышынец.**

**27 мая. 22.00**

**Закрыццё Свята славянскага пісьменства і культуры ў Беларусі.**

**Паэтычнае фальклорнае свята «РОДНАЕ СЛОВА» (Вязынка).**

---

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Валянціну Мысліўцу з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці БРАТА МІКАЛАЯ.**

**Саюз пісьменнікаў БССР выказвае глыбокае спачуванне пісьменніку Віктару Трыхманенку з прычыны напаткаўшага яго гора — смерці ЖОНКІ.**

**Супрацоўнікі Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР смуткуюць з выпадку заўчаснай смерці аспіранткі інстытута Галіны ПОЙМАНАВАЙ і выказваюць спачуванне родным і блізкім.**


«Литература и искусство» — орган Министерства культуры и правления Союза писателей БССР. Минск. На белорусском языке.

**«ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА»**

Выходзіць раз на тыдзень, па пятніцах.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі.

Індэкс 63856 П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
АТ 06238 М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.

ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай рэдакцыі—33-24-61, намесніка галоўнага рэдактара — 33-25-25, адказнага сакратара — 33-19-85, аддзела публіцыстыкі і нарыса — 33-19-65, аддзела пісьмаў і грамадскай думкі — 33-19-65, аддзела крытыкі і бібліяграфіі — 33-22-04, аддзела прозы і паэзіі — 33-22-04, аддзела тэатра, кіно і тэлебачання — 33-21-53, аддзела музыкі — 33-21-53, аддзела выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў — 33-24-62, аддзела народнай творчасці і культасветработы—33-24-62, аддзела інфармацыі — 33-24-62, аддзела мастацкага афармлення і фотаілюстрацый — 33-44-04, 33-24-62, карэктарскай — 32-20-64, бухгалтэрыі — 23-73-37.

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе.